 


# ПАГОНЯ

Чацвер
6 красавіка 2000 г.
№ 11 (458)
Кошт 70 рублёў


## Пакаралі за выкарыстанне канстытуцыйнага права

**З мінулага аўторка ідуць суды над арганізатарамі Дня Волі ў Гродне. Абвінавачванне ў «арганізацыі несанкцыянаванага шэсця» прад'яўлена тром асобам: старшыні Гарадзенскай Рады БНФ Сяргею Мальчыку, выкладчыку універсітэта Валянціну Лучко і старшыні Свабоднага прафсаюза тонкасуконнага камбіната Адольфу Зацэпіну.**

Усе прыцягнутыя да адміністратыўнай адказнасці віны не прызналі і лічаць свае дзеянні абсалютна законнымі і адэкватнымі сітуацыі.

Нягледзячы на тое, што Адольф Зацэпін не браў удзелу ў самім шэсці, суддзя Дзмітрый Дземчанка пакараў яго штрафам у памеры 160 «мінімалак» ці 352 мільёны рублёў старымі. Паводле словаў спадара Зацэпіна, у мінулым месяцы ён атрымаў 26 мільёнаў рублёў заробку. Не цяжка падлічыць: каб выплаціць увесь штраф, яму спатрэбіцца болей як год.

Валянцін Лучко быў апраўданы. Ягонаму адвакату Уладзіміру Кісялевічу ўдалося даказаць суду беспадстаўнасць абвінавачванняў супраць спадара Лучко з боку міліцыі.

Суд над Сяргеем Мальчыкам адбываўся і ў сераду. Абарона спадара Мальчыка патрабавала выклікаць у суд дзеля тлумачэнняў начальніка Ленінскага РАУС Станіслава Васілеўскага і намесніка старшыні гарвыканкама Сяргея Анішчыка. Аднак, суддзя Дземчанка адхіліў гэтае хадайніцтва.

Судовы вердыкт меўся быць вынесены ў 16 гадзін. Графік выхаду ПАГОНІ не дазваляе нам паведаміць вынік суда. Але, адпаведна словам Сяргея Мальчыка, калі яму будуць прысуджаны «суткі», ён абвесціць галадоўку проста ў зале суда.

**Павал Мажэйка**

## Ачысцім ад смецця Каложу!

**У суботу, 8 красавіка, гарадзенская моладзь збіраецца ачысціць ад смецця тэрыторыю каля Каложскай царквы.**

Запрашаюцца ўсе, каго непакоіць экалагічная сітуацыя ў горадзе і каму абрыдла дыхаць смуродам.

Збор а 13-й гадзіне каля Каложы.

**Ул.Інф.**

## Вучаць амерыканцы

**На мінулым тыдні прадстаўнікі Амерыканскай асацыяцыі юрыстаў правялі у Гродне цыкл семінараў па прававой тэматыцы. Дамоўленасць аб гэтым была дасягнута падчас візіту ў абласны цэнтр члена асацыяцыі Біла Хігенса. Амерыканскі юрыст наведаў Гродна 27 — 28 сакавіка.**

Ён правеў шэраг сустрэч з прадстаўнікамі мясцовых структур Свабоднага прафсаюза беларускага, Беларускай арганізацыі працоўных жанчын, арганізацыі шматдзетных маці і малазабяспечаных сем'яў «Крыніца міласэрнасці» і прадпрымальнікамі рынку «Паўднёвы». Падчас гутарак адзначаўся нізкі ўзровень прававой пісьменнасці грамадзян Беларусі.

Зыходзячы з гэтага і было' прынята рашэнне наладзіць у Гродне цыкл прававых семінараў для жанчын і падлеткаў. Іх тэмы — правы дзіцяці і правы маці; сацыяльныя гарантыі для сем'яў, якія выхоўваюць дзяцей; парадак абскарджвання неправамерных дзеянняў службовых асоб; праблемы п'янства, наркаманіі і СНІД.

**Наталля Кулагіна**




7, 8 красавіка - воблачна, з праясненнямі, часам - ападкі, вецер паўночна-ўсходні - 3-7 м/с. Тэмпература паветра - уначы +1...+6, удзень +11...+16.

# Не пі з-пад крана - казляняткам станеш!

## Вада з водазабору «Пагараны» небяспечная для здароўя! Аднак, яе п'юць дзесяткі тысячаў гарадзенцаў

«Не пі ваду з-пад крана!» - гэтымі словамі мама з дзяцінства перасцерагала мяне. Але ж чаму нельга выкарыстоўваць гэтую ваду?

Многія гарадзенцы і без лабараторных аналізаў ведаюць, што вада хларуецца. Ды і як не ведаць, калі вада мае агідны выгляд і непрыемны пах круглы год? Больш таго, улетку зусім немажліва ўжываць ваду з-пад крана.

Падаюць ваду ў горад тры падземныя водазаборы і адзін рачны. Частка жыхароў горада Гродна вымушана выкарыстоўваць ваду з ракі Нёман, якая ачышчаецца хлорам.

Чаму менавіта хлор?

Як мне паведамілі ва ўпраўленні водаправодна-каналізацыйнай гаспадаркі, хлор з'яўляецца адзіным рэагентам, які доўгі час захоўвае абеззаражвальныя ўласцівасці. І яны маюць першаступеннае значэнне, улічваючы якасць трубаправодаў.

Калі вада паступае з вадаёму і праходзіць апрацоўку, то, па сутнасці, становіцца чыстай. Аднак, пасля яна трапляе ў сетку водазабеспячэння. І атрымлівае другаснае забруджванне. Такая якасць вады пагражае ўспышкамі масавых эпідэміяў. І толькі хлор працягнёвае, абеззаражваючы ваду на працяглы час.

Калі б сітуацыя з трубаправодамі была іншай, рачная вада магла б ачышчацца іншымі метадамі. Напрыклад, азанаванне і ўльтрафіялетавае апраменьванне. Метады гэтыя, канешне, каштуюць даражэй. Але ўжо, напэўна, пасля такой сістэмы ачысткі вада не будзе мець паскудны пах і смак.

Існуе дзяржаўная «Праграма першачарговых мераў па забеспячэнню насельніцтва якаснай пітной вадой на перыяд 1998-2000 гадоў». У рамках яе прадугледжвалася ўдасканаленне сістэмы ачысткі дзеючага рачнога водазабору «Пагараны». У той жа час ён лічыцца неперспектыўным, і укладаць туды каласальныя сродкі па прынцыповаму выкарыстанню тэхналогіі ачысткі немэтазгодна. Як гэта разумець? Намеры цалкам процілеглыя. Праўда, чамусьці, у другое верыцца болей...




Дарэчы, гэты самы рачны водазабор «Пагараны» быў пабудаваны ў 1984 годзе. Першы раз яго планавалі закрыць ужо ў 1995 годзе, пасля - у 1998 годзе. А зараз - у 2005-м. І кожны раз - у якасці першачарговых мераў!

Плануецца пашырэнне падземных водазабораў і будаўніцтва новых артэзіянскіх свідравінаў. Карэнныя гарадзенцы кажуць, што абяцанкі гэтыя цягнуцца з даўніх часоў. І далёка не адно пакаленне вырасла на хлараванай вадзе...

Доўгі час вада з падземных крыніцаў таксама абеззаражвалася хлорам, як і вада з рачнога водазабору. Але ў 1991 годзе падчас эксперыменту на водазаборы «Чэхаўшчына» было спынена хлараванне вады пры ўмове дадатковага штодзённага бактэрыяльнага даследавання па ўзгадненню з Цэнтрам гігіены і эпідэміялогіі (цяпер такую назву мае санітарна-эпідэміялагічная станцыя). Эксперымент доўжыўся каля года. Вынікі яго паказалі, што вада, якая не падпадае хлараванню, адпавядае ДАСТу «Вада пітная». З прычыны непазбежнага мікрабіялагічнага забруджвання трубаправодаў, якія дастаўляюць ваду да спажыўцоў, праводзяцца перыядычныя абеззаражванні падземнай вады: адзін-два разы на тыдзень і ў выпадках аварыйна-рамонтных работаў.

З 1993 года хлараванне вады на ўсіх падземных водазаборах спынена.

Такім чынам, значная частка гарадзенцаў, а менавіта тыя, хто пражывае ў Вішняўцы, Румлёве, Прынёманскім, частка жыхароў дамоў па вуліцах Шчорса, Кляновай, Белуша, па праспекце Касманаўтаў, вымушаныя скарыстоўваць ваду з рачнога водазабору.

Падчас так званага «цвіцення», у вясновa-летні перыяд у рачной вадзе з'яўляецца значная колькасць арганічных прымешкаў. Хлор пры ўзаемадзеянні з арганікай утварае канцэраген.

**«Канцэраген - хімічнае рэчыва альбо фізічны агент, здольны выклікаць развіццё злаякасныхнowаўтварэнняў пры дзеянні на жывую тканку і садзейнічае іх узнікненню. Механізмы дзеяння канцэрагенаў зводзяцца да мутацыяў у храмасомным апараце клетак, у выніку чаго ўзнікае іх спадчынная інфармацыя. У выніку змянення генетычнай інфармацыі ў клетцы сінтэзуюцца антыгены, не характэрныя для дадзенага арганізму. Узнікаюць мутанты, якія маюць уласцівасці пухлінных клетак.»**

Ці мажліва засцерагчы сябе і сваю сям'ю ад небяспекі нейкімі даступнымі звычайнаму чалавеку спосабамі?

Існуе меркаванне, што паляпшае якасць вады адстойванне. Спецыялісты сцвярджаюць, што ў выніку простага адстойвання асядаюць і механічныя дамешкі, і частковa солі калянасці, выпарыцца свабодны хлор, аднак прынцыпова вада не ачысціцца.

Частка гараджанаў набыла фільтры для ачысткі пітной вады. Аднак, даведацца, што маркуюць спецыялісты адносна таго, наколькі эфектыўныя гэтыя фільтры, даволі цяжка. Бо правядзенне аналізу якасці вады - працэдура нятанная, і замоваў на яе правядзенне пакуль не было. Так што дадзеных, якія пацвярджаюць выніковасць ачысткі вады фільтрамі, пакуль што няма. Дыстыляваная вада таксама даступна далёка не кожнаму...

...Затое ў кожнага гарадзенца ёсць магчымасць наведаць Лядовы палац. Той самы падарунак грамадзяніна Лукашэнкі паспалітаму люду за больш чым $5.000.000 паспалітых грошай. Толькі ці захочацца, папіўшы нёманскай вады з хлоркай, выпісваць выкрутасы на лёдзе? Можа лепш было адразу шпіталь пабудаваць?..

Вядома толькі адно: за $5.000.000 можна было пабудаваць па артэзіянскай свідравіне кожнаму гарадзенцу!!!

**Інга Дубpоўская**



## Паслугі ДАІ падаражэлі

**З 28 сакавіка ўведзены новыя стаўкі збораў з уладальнікаў транспартных сродкаў за паслугі ДАІ.**

Цяпер за нумарныя знакі на аўтамабіль трэба будзе заплаціць 7 300 рублёў, а за знакі са святлозваротнай паверхняй - 14 600 рублёў. Знакі на матацыкл каштуюць 3 000 рублёў.

Каб атрымаць тэхнічны пашпарт новага ўзору, неабходна мець квіток на суму 3 000 рублёў, а за вадзіцельскае пасведчанне новага ўзору трэба заплаціць 3 300 рублёў.

Змянілася таксама аплата і за прыём экзаменаў на атрыманне вадзіцельскага пасведчання. За праходжанне тэхагляду, камп'ютарныя паслугі па рэгістрацыі, зняцце з уліку транспарту і выдачы вадзіцельскіх пасведчанняў.

Кошт дублікатаў бланкаў ДАІ і нумарных знакаў падвысіўся на 150 працэнтаў.

**Валянцін Чурыла «ГС»**

## Рыбаловы адпачнуць

**Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Беларусі прыняло пастанову, якая рэгламентуе рыбалоўства на час нерасту рыбаў.**

На тэрыторыі Гарадзенскай вобласці на гэты перыяд прамысловае і аматарскае рыбалоўства ў рыбалоўных угоддзях забаронена з 10 красавіка да 8 чэрвеня.Не забараняецца аматарскае рыбалоўства ў светлы час сутак з берага на ўчастках за межамі нерасту адной паплаўковай вудай з адным кручком ці спінінгам.

**Наталля Фурсава**

## У слове айчыстым!

Трэцяга красавіка у Гродне аднавіўся выхад радыёперадачы на польскай мове, якая не выходзіла ў эфір каля года. Радыёслухачы будуць мець магчымасць слухаць праграму на хвалях абласнога радыё па панядзелках. Слухачы змогуць даведацца пра жыццё, традыцыі, мерапрыемствы, якія праводзяць палякамі ў Гарадзенскай вобласці, Беларусі і іх гістарычнай радзіме — Польшчы.

**Ася Куніцкая**

 

# Барын харошы, гэта ўсё чэлядзь

**За апошнія дні ў друку з'явіўся ажно тузін версіяў, чаму менскі рэжым вывеў войскі супраць беларускага народа ў сталіцы краіны Менску 25 сакавіка. Некаторыя з іх вельмі арыгінальныя - напрыклад, А.Лукашэнку «падставілі», каб скампраметаваць перад міжнароднай і расейскай публікай. Але большасць версіяў схіляюцца да таго, што гэтым разам у атачэнні А.Лукашэнкі перамаглі мілітарысты, «ястрабы», пара-сейску накіраваныя чыноўнікі, якія вырашылі такім чынам сарваць дыялог улады і апазіцыі. Нібыта мілітарысты жадаюць, каб беларускі рэжым меў сувязі толькі з Крамлём, а не з Захадам і апазіцыяй, вось і ўбілі клін паміж дэмакратамі і А.Лукашэнкам.**

Усе гэтыя версіі ёсць не што іншае, як пераказ наўмыснай дэзінфармацыі: нейкія невядомыя людзі (ніводзін з якіх не пакараны) падказалі А.Лукашэнку самы масавы сцэнар «хапуна», якога не здаралася з часоў аблаваў на жыдоў, здзейсненых нямецкімі фашыстамі. Так і хочацца працягнуць думку: а Ён «харошы», хоча запусціць заводы і аднавіць Савецкі Саюз. На самой справе акупацыя Менска спецвойскамі рэжыму - звычайны чын для такога кшталту ўлады, і тлумачыцца ён звычайнымі, даўно вядомымі свету прычынамі.

Галоўная прычына - гэта нелегітымнасць. Варта было 25 сакавіка перайсці на бок народа аднаму-двум сілавым міністрам, сказаць: «хлопцы, мы з вамі», - і Праваднру можна было б не турбавацца адносна вяртання з Бліжняга Усходу. Вось гэты страх і падштурхнуў на акупацыю сталіцы карнікамі. І зусім не трэба нешта нашэптваць на вушка - усім вядома, хто ў нашай краіне самы баязлівы, самы істэрычны, хто больш за ўсіх не любіць апазіцыю і прэсу, хто больш за ўсё патрабуе падтрымкі з боку Расеі і грэбуе заходняй цывілізацыяй.

Калі б усё было наадварот, а сам А.Лукашэнка жадаў не абвастрэння ўсіх супярэчнасцяў (як навучылі яго бальшавікі), а грамадскай згоды, то ён бы ўжо даўно замяніў гэтых адыёзных расейскіх міністраў-прыхадняў на лаяльных беларускаму народу і яму асабіста людзей. Такія людзі ёсць, больш таго, іх прафесійны ўзровень нашмат большы за патэнцыял зампалітаў-гэбітсаў. Аднак, расейскія палкоўнікі і генералы па-ранейшаму кіруюць урадам і сілавым блокам рэжыму і выконваюць «любы загад» свайго боса. Месца паміж босам і ягонымі міністрамі для «мірных» чыноўнікаў няма - апошнім быў Юрый Захаранка.

**Міхась Капялюш**

# «Не мяшайце прэзідэнту!»

**Арыгінальную акцыю правёў першага красавіка ў дзень Дурня гарадзенскі «Малады Фронт». Усе, хто яшчэ працягвае верыць у дзеяздольнасць сённяшняй улады маглі ў 12.30 убачыць сябе ў цэнтры Гродна.**

Чырвоны нос, падбітае вока, пластыр на ілбе, запэцканая ватоўка і нагавіцы з месячным брудам - такім уяўляе сабе гарадзенская моладзь партрэт «электарата».

«Лукашэнкавец» трымаў у руках чырвона-зялёны сімвал і тры плакаты. Лозунгі «Не мяшайце прэзідэнту!», «Любіце Расею - мацъ вашу!», «Беларусь ад Буга да Курыл» - яскрава акрэслілі знешнепалітычныя памкненні прадстаўніка «электарата». Вянчалі скульптуру плакаты на грудзях і спіне: «Лукашэнка - адзіная надзея беларускага народу», «Хачу ў Чачню!» і вялікая шапка для грошай на білет.

Агітматэрыялы трымаць было цяжка, аднак палітычнага разумення ў народзе пікетовец не знайшоў - ніхто з гарадзенцаў да ягоных патрабаванняў не далучыўся.

«Чаго ты хочаш?» - пыталіся людзі. «З Расеяй хачу аб'яднацца.» «Ну і дурань!» - ставілі дыягназ гарадзенцы.

«Працаваць трэба, а не за Лукашэнку агітаваць!» - прабурчала бабулька і пацягнула ў тралейбус дзве набітыя торбы.

Падчас акцыі склалася ўражанне, што ў гарадзенцаў, нават і першага красавіка, няма часу на смех. Нехта, успрыняўшы акцыю сур'ёзна, спрабаваў давесці пра высокія кошты і малыя заробкі. Нехта сціскаў кулак і казаў: «Молодец!» Хтосьці, пераважна жанчыны, рэагаваў жорстка і са злобай - «шызануліся вы ўсе разам са сваім Лукашэнкам».

А адпраўляць свайго ў Чачню гарадзенцы не сталі. За гадзіну акцыі было сабрана толькі 820 рублёў. З такімі грашыма і да Ліды не даедзеш.




«Электарат», як мог, агітаваў за Лукашэнку

**Павал Мажэйка**

# Еўрасаюз асудзіў...

**Еўрапейскі саюз асудзіў неадэкватнае выкарыстанне сілы беларускімі ўладамі для разгону апазіцыйнай дэманстрацыі ў Менску 25 сакавіка.**

«Еўрапейскі саюз выказвае шкадаванне з нагоды хаатычных арыштаў, праведзеных сіламі бяспекі 25 сакавіка, ахвярамі якіх сталі людзі, якія не ўдзельнічалі ў дэманстрацыі, удзельнікі маршу і журналісты, а таксама замежныя назіральнікі, у тым ліку дыпламат, сябра парламента і прадстаўнікі замежнай прэсы». Так гаворыцца ў заяве, распаўсюджанай 31 сакавіка пасольствам Францыі ў Беларусі, якое сёлета прадстаўляе ў Менску Прэзідэнцтва Еўрапейскага саюза.

Еўрасаюз заклікаў беларускія ўлады зняць абвінавачанні з усіх арыштаваных у сувязі з дэманстрацыяй 25 сакавіка і правесці расследаванне выпадкаў жорсткага абыходжання з затрыманымі. Акрамя таго, ЕС выступае за адмену забароны на праведзенне шэсцяў у Менску, бо такая забарона «уяўляе сабой неабгрунтаванае абмежаванне свабоды выказвання, мірных сходаў і асацыяцый грамадзян».

«ЕС таксама хацеў бы нагадаць беларускім уладам, што дэкларацыя стамбульскага саміту АБСЕ, якую падпісала Беларусь, падкрэслівае, што толькі сапраўдны палітычны дыялог у Беларусі можа прывесці да свабодных і дэмакратычных выбараў, праз якія можна закласці падмурак сапраўднай дэмакратыі», — адзначаецца ў заяве.

**Алесь Абрамовіч**

# «На сход, на вялікі сход...»

**Аргкамітэт Усебеларускага з'езда прапануе ўсім грамадскім сілам, якія падтрымліваюць ідэю з'езда, да 14 красавіка прайсці рэгістрацыю.**

Як паведамілі ў сакратарыяце Усебеларускага з'езда, працягваецца распрацоўка рэгламента яго правядзення. У сувязі з гэтым сакратарыят звяртаецца да ўсіх грамадскіх арганізацый, палітычных партый, творчых і прафесійных саюзаў, якія падтрымліваюць ідэю Усебеларускага з'езда і плануюць свой удзел у ім, зарэгістравацца ў сакратарыяце з'езда да 14 красавіка. Гэта неабходна для вызначэння прыкладнай колькасці дэлегатаў з'езда і нормы прадстаўніцтва грамадскіх арганізацый. Кантактны тэлефон для рэгістрацыі ў Менску — (017) 223-65-29.

Нагадаем, што ў пачатку 2000 года група аўтарытэтных грамадскіх дзеячоў, занепакоеных пагрозай, што навісла над беларускай дзяржаўнасцю, выступіла з ініцыятывай правядзення сёлета Усебеларускага з'езда. Гэтая ідэя падтрымана многімі грамадзянамі Беларусі, а таксама шэрагам грамадскіх арганізацый і палітычных партый. З'езд павінен з'явіцца механізмам шырокага і непадкантрольнага выказвання грамадскай думкі па пытанні аб беларускай незалежнасці. У адрозненне ад Кангрэса дэмакратычных сіл або Форума народна-дэмакратычных сіл, на якіх былі прадстаўлены асобныя пласты грамадства, Усебеларускі з'езд павінен стаць падзеяй агульнанацыянальнага маштабу.

У працы з'езда, які плануецца правесці ў траўні 2000 года, возьмуць удзел дэлегаты ад усіх рэгіёнаў краіны, вылучаныя па тэрытарыяльным прынцыпе на сходах грамадскасці, а таксама ад палітычных партый, грамадскіх арганізацый, творчых і прафесійных саюзаў і іншых аб'яднанняў. На думку яго арганізатараў, Усебеларускі з'езд будзе прытрымлівацца традыцый Усебеларускага з'езда (кангрэса) 1917 года, які стаў адмысловым падмуркам да стварэння ў сакавіку 1918 года незалежнай беларускай дзяржавы — Беларускай Народнай Рэспублікі.

**Марат Гаравы**

# Гавел падтрымаў маладую апазіцыю

**3 красавіка завяршылася тыднёвая паездка ў Чэхію прадстаўнікоў беларускіх арганізацый «Малады фронт» і «Грамадзянскі форум».**

Прыехаўшы ў Прагу, сябры беларускай дэлегацыі пасадзілі на беразе ракі Влтава сімвалічнае дрэва свабоды і дэмакратыі для Беларусі. У гэтай цырымоніі брала ўдзел старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонка Сурвіла і народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў. Такое ж дрэўца моладзевая дэлегацыя прывезла на Беларусь; бліжэйшымі днямі яно будзе пасаджана на адной з вуліц Менску.

Прадстаўнікоў беларускіх моладзевых арганізацый прынялі намеснікі старшыні Сената Чэшскай Рэспублікі Пшэмыслаў Суботка і Ян Крамек. 30 сакавіка беларуская дэлегацыя наведала Карлаў універсітэт, дзе з палутарагадзіннай лекцыяй на факультэце сацыяльных навук выступіў прэзідэнт Чэхіі Вацлаў Гавел.

**Генадзь Барбарыч**

# Сяргей Посахаў and Сева Янчэўскі і Марыя Бірукова...

**30 сакавіка ў Гродне адбыўся чарговы пленум абкама БПСМ, удзел у якім прынялі высокія кіруючыя асобы аблвыканкама - Марыя Бірукова, Уладзімір Амелька ды іншыя прадстаўнікі ідэалагічнай «вертыкалі».**

Кожнаму хочацца прыгадаць камсамольскую маладосць, тым больш, што новыя маладыя функцыянеры адзін к аднаму перанялі норавы былых паратайгеносэ. Асабліва спрытна прарадаюць грошы падаткаплацельшчыкаў. І на пленуме неаднойчы гучала: мала, мала грошай! Давай, дзяржава, яшчэ і больш, інакш моладзь уся пабяжыць у Малады Фронт. Тады вам мала не падасца! Мы ж не стрымаем!..

Во як напрактыкаваліся шантажыраваць «старших товарищей»! Другі козыр - гэта лічбы. У вобласці створана каля 1100 першасных арганізацыяў БПСМ на прадпрыемствах і ў навучальных установах, а гэта амаль 23000 «правільных» хлопцаў і дзяўчатаў. Новага яны нічога не прыдумалі. Усё тое ж, напрацаванае ў тыя гады, калі абласной арганізацыяй ЛКСМБ кіравала Марыя Міхайлаўна Бірукова - клопат пра пенсіянераў і піянераў, удзел у спартовых спаборніцтвах, стварэнне будаўнічых атрадаў. Новым з'яўляецца хіба што пошук моладзевых лідараў. Але справа гэтая небяспечная для маналітнага кіруючага ядра БПСМ. Новыя могуць даць выспятка пад зад старым загартаваным бюракратам ад камсамолу. Бо галоўны недахоп новага БПСМ (чытай, старога ЛКСМБ) - гэта спроба 30-35-гадовых дзядзькаў і цётак зноў кіраваць 15-20-гадовымі. Няўжо моладзь сама сабе не дасць рады? Бацькі дома абрыдлі са сваімі павучаннямі, а тут чужы, адпрасаваны да шнуркоў на чаравіках чалавек лезе ў душу...

Пленум вылучаў тым, што ў Гродна прыехалі лідар БПСМ Усевалад Янчэўскі, які некалі ў перадвыбарчым штабе Аляксандра Лукашэнкі быў вачыма і вушамі цяперашняга кіраўніка беларускіх ліберал-дэмакратаў Сяргея Гайдукевіча (гл. «Народную Волю» ад 24 сакавіка 2000 года). Сева-камсамолец, ганарліва гледзячы ў аб'ектывы фота- і відэакамер, хваліў БПСМ і яго дзейнасць. Хто ж цябе пахваліць, калі не сам!

Сяргей Посахаў таксама добра вядомы гарадзенцам. Цяпер ён мае ранг дарадцы прэзідэнта па справах грамадскіх арганізацыяў. Не прыехаць не мог. Як не нагадаць пра сябе яшчэ раз, асабліва тым, хто калісьці не так сказаў на яго адрас і не так пачціва паглядзеў? Вунь як «вертыкальныя» вакол закруціліся, дагаджалі, аддана гледзячы ў вочы і пры гэтым ненавідзелі, як самага заклятага ворага. Небяспечны, Сяргей Аляксеевіч, у вас таварышкі. Да першага павароту. А пасля спазнаеце ўсю іх сутнасць. Сваё халуйства і прыніжэнне яны не прабачаць нікому і ніколі. Яшчэ будзе час пераканацца. Хіба што ў родную Расею своечасова закажаце білеты.

Былы армейскі палітработнік, палкоўнік Посахаў, гаворачы пра БПСМ, вылучыў два кірункі яго дзейнасці: удзел у палітыцы (кузня кадраў) і самастойнасць у эканоміцы. Пра апошняе мог бы і не ўзгадваць. Там, дзе звініць капейчына, маладыя артадоксы-прагматыкі дадуць фору каму заўгодна. Галоўнае, каб дзяржаўная казна спраўна плаціла грошы на сумнёўныя эксперыменты.

Думаецца, што прыезд дзвюх не апошніх асобаў у цяперашнім палітычным раскладзе Беларусі, не выпадковы. І звязаны найперш падзеямі 15 і 25 сакавіка ў Менску і Гродне. У «Маршы Свабоды-2» і Дні Волі пераважала моладзь. Ніякі БПСМ яе не стрымаў і не стрымае. Бо там у павазе іншыя каштоўнасці - дэмакратыя, незалежнасць краіны, свабода, правы чалавека.

Уражвае тое, што БПСМаўцы маюць немалыя грошы з жабрачага бюджэту краіны, а справіцца з ростам нацыянальнай самасвядомасці маладых грамадзянаў не могуць. «Несаюзная» моладзь, наадварот, не мае грошай, а яе актыўнасці можна пазайздросціць. Параўнайце, «товарищи» з БПСМ, ваш кастрычніцкі 1999 года мітынг і мітынг апазіцыі ў Гродне 25 сакавіка сёлета. На вашым - заарганізаваным да апошняй кропкі - ад нуды мухі дохлі і школьнікі разбягаліся, выступоўцы вачэй ад паперак не адрывалі, пыкалі і мыкалі. На апазіцыйным мітынгу гаварылася ад сэрца, таму і тэматыка хвалявала прысутных. Бо размова вялася пра лёс краіны, жабрацтва людзей. Вы пра гэта маўчыце, бо сказаць няма чаго. І на пленуме прамаўчалі.

Пазбаў вас дзяржаўнага грашовага допінгу, і развалiцеся за дзень. Ідэі вашы пройгрышныя ад самага пачатку. Яны даўно збанкрутавалі. А той ажыўлены чырвона-зялёны зомбі, якому пакланяецца БПСМ, толькі прах, які дрэнна патыхае. Вій у беларускім варыянце. Ягоны час мінуў - да пергага сонечнага промня. Увесну шмат сонечных дзён...

**Марк Ведвіч**

# «А в остальном, прекрасная маркиза, всё хорошо...»

**Стан аховы здароўя ў горадзе Гродна - прыкладна такім чынам можна акрэсліць тэму прэс-канферэнцыі, якая была арганізавана для журналістаў аддзелам інфармацыі гарвыканкама і адбылася чацвёртага красавіка.**

Пытанне аховы здароўя заўсёды актуальнае і датычыць літаральна кожнага з нас.

Аб праблемах аховы здароўя напісана шмат артыкулаў у прэсе. Усе ведаюць, як недаўкамплектаваныя нашыя бальніцы сучасным абсталяваннем, не хапае лекаў, слабая дыягностыка і г.д. Заробак кваліфікаванага ўрача зневажальна нізкі, а праца медсястры і санітаркі - гэта ўжо амаль валанцёрства. На што яны жывуць і гадуюць сваіх дзяцей - незразумела. А вось, дарэчы, інфармацыя з прэс-канферэнцыі: у гарадскіх паліклініках не хапае медычных сёстраў. У некаторых - да 80 працэнтаў вакансіяў. Таму што заробак іх на сённяшні дзень - 10 546 рублёў.

Але з праблемамі, як спрабуюць запэўніць нас, вядзецца непрымірымая барацьба. Для гэтага складаюцца спецыяльныя праграмы. Пачатак гэтаму пакладзены яшчэ ў Савецкім Саюзе ў 1988 годзе. У Беларусі клапатліва захоўваюць і працягваюць лепшыя традыцыі савецкіх часінаў. Так, у 1997 годзе на Рэспубліканскім узроўні зацверджаная праграма «Здароўе нацыі», а ў нас у Гродне, як паведаміў намеснік аддзела аховы здароўя гарвыканкама Барыс Мікалута, на яе падставе распрацаваная і праграма «Здароўе народа». У ёй восем раздзелаў, шмат пунктаў, вызначаны тэрміны выканання. Па асобных накірунках складаюцца планы, напрыклад, план па выяўленню гіпертанічных захворванняў, план па карэкцыі ладу жыцця ды іншыя. Карацей, работа кіпіць. І гарвыканкам шмат дапамагае, за гэта спадар Мікалута выказаў яму падзяку: увесь час праводзяцца разнастайныя нарады, на якіх заслухоўваюць, як выконваецца праграма.

А між іншым, як высветлілася на тым жа брыфінгу, даволі трывожная сітуацыя са здароўем дзяцей. Толькі па зроку выяўлена паталогіяў у 12 працэнтаў дзяцей першых-другіх класаў, а ў дзесяцігадзінаццацікласнікаў яна дасягае 25 працэнтаў. Адна з прычынаў - недастатковае асвятленне ў школьных кабінетах. Павялічылася колькасць венерычных захворванняў: толькі за першыя тры месяцы гэтага года зафіксавана 150 выпадкаў ганарэі і 73 выпадкі пранцаў. Але самыя трывожныя лічбы па СНІДу. Тое, што адбываецца ў горадзе Ліда, урачы кваліфікуюць як сур'ёзную ўспышку гэтага захворвання - 49 выпадкаў (для параўнання: у Гродне - 13). Гэтую з'яву спецыялісты звязваюць з павелічэннем колькасці шпрыцавых наркаманаў. У сувязі з гэтым, у сямі населеных пунктах вобласці, у Гродне ўключна, для наркаманаў адчыненыя пункты па абмену шпрыцоў. На пытанне, ці карыстаецца гэтая паслуга папулярнасцю ў дадзенага кантынгенту, журналісты атрымалі адказ: на жаль, не. Справа ў тым, што карыстацца ёю могуць толькі тыя, хто стаіць на ўліку ў наркадыспансеры.

Канешне, паўстала традыцыйнае пытанне наконт якасці пітной вады ў горадзе. Як вядома, дагэтуль прыкладна трэцяя частка насельніцтва Гродна п'е ваду з рачнога водазабору, што небяспечна для здароўя. На ўзгаданае пытанне ад галоўнага санітарнага ўрача горада Гродна Мікалая Кендыша быў атрыманы традыцыйны адказ: «Хутка ўсе будуць пераключаныя на водазабеспячэнне з артэзіянскіх крыніцаў». Не вядома, ці верыць у гэта сам спадар Кендыш.

На самой справе, здароўе насельніцтва, у першую чаргу, залежыць не ад «буйнамаштабных» выканкамаўскіх мерапрыемстваў, а ў першую чаргу - ад чысціні вады і здаровай ежы. Мы з прычыны ўсеагульнага збяднення не можам пахваліцца ні першым, ні другім. (Прывядзем некалькі дадзеных сацыялагічных апытанняў, апублікаваных у «Беларускай газеце» ад 27 сакавіка: за апошнія пяць гадоў людзі сталі меней купляць у магазінах мяса - на 15 працэнтаў, малака - на 45 працэнтаў, хлеба - на 35 працэнтаў, бульбы - на 52 працэнты. Затое на 55 працэнтаў узрос аб'ём продажу алкагольных напояў. Прычым, 80 карэспандэнтаў кажуць пра наяўнасць ценявога абароту ў памеры 50-80 працэнтаў ад афіцыйна дэклараемага). Асобна стаіць праблема збалансаванасці харчавання, асабліва дзіцячага, але яна надта дорага каштуе. На гэта ў мясцовых уладаў ніякіх грошай не хопіць. Таму лепей заняцца складаннем, а пасля і выкананнем праграмаў. Галоўнае - скласці дакладныя планы, вызначыўшы, па якіх паказчыках іх ацэньваць. Дарэчы, як заўважыў падчас прэс-канферэнцыі Барыс Мікалута: «Тыя паказчыкі, што мы маем у нашым горадзе, нас практычна задавальняюць».

**Ніна Палуцкая**




**Не трэба змагацца за чысціню, трэба прыбіраць бруд», - казаў савецкі сатырык. ПАГОНЯ неаднаразова пісала пра антысанітарыю ў грамадскіх прыбіральнях Гродна, але ні камунальныя службы горада, ні органы санітарнага кантролю не звярталі на гэта ўвагі. У прыбіральні на Савецкай плошчы па-ранейшаму па калена вады і нечыстотаў. Калі мясцовая ўлада не здольная наладзіць працу прыбіральняў, то на што яна ўвогуле здольная?**

# Камяні сталі помнікамі

**10 геалагічных рэліктаў Гарадзенскай вобласці абвʼяўлены помнікамі прыроды рэспубліканскага значэння.**

Як паведамілі у прэс-службе Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, ініцыятарамі гэтай акцыі сталі Інстытут геалогіі Нацыянальнай акадэміі навук сумесна з Мінпрыроды, а таксама Мастоўскім і Слонімскім райвыканкамамі. Помнікамі прыроды аб'яўлены чатыры валуны вагой ад 25 да 52 тон, якія знаходзяцца ў наваколлі вёсак Дарагляны, Смоўжы і Кракотка; тры геалагічныя агаленні парод (апорныя разрэзы адкладаў ледніковага і пасляледніковага перыядаў) каля вёсак Дубна, Пескі і хутара Княжаводцы, а таксама гара Калпак ідэальнай конусападобнай формы ў наваколлі вёскі Парэчча.

**Марат Гаравы**

# Трафасан супраць туберкулёзу

**Вучонымі кафедры фтызіятрыі Гарадзенскага медыцынскага універсітэта сумесна з менскім навукова-вытворчым прадпрыемствам «Біясан» распрацаваны біярэгулюючы прэпарат для лячэння туберкулёзу «Трафасан».**

Зараз ён праходзіць у Гродне клінічныя выпрабаванні. Новы прэпарат уяўляе сабою не лекавы сродак, а біялагічную харчовую дабаўку. Першыя выпрабаванні паказалі, што «Трафасан» дазваляе павысіць імунітэт арганізма, палепшыць функцыю печані, узмацние працэсы зажыўлення, бялковы абмен, нармалізуе амінакіслотны склад крыві.

**Ася Куніцкая**

# Ул. Кудзінаў: «ніколі не пайду на тое, каб зганьбіць дзяцей!»

**Уладзімір Кудзінаў, дэпутат Вярхоўнага Савета і бізнесовец - з'яўляецца тыповым прыкладам таго, як дзяржава распраўляецца з няўгоднымі ёй людзьмі. Пайшоў ужо чацвёрты год яго турэмнага змагання з існуючым рэжымам. Засталося яшчэ тры.**

**Днямі ў рэдакцыю ПАГОНІ патрапіў ліст Уладзіміра Кудзінава на волю. Мы лічым сваім абавязкам надрукаваць турэмнае слова чалавека, які не скарыўся рэжыму.**

«...Стаўленне да мяне, у цэлым, нармальнае, аднак у асобных выпадках назіраецца нейкая прадузятасць з боку турэмнай адміністрацыі. Мне чагосьці і кагосьці баяцца не варта, што я і раблю. А калі хто і мае жаданне прыціснуць мяне сёння, дык я не зайздрошчу ім заўтра. Вечна я сядзець тут не буду, таму жыць трэба, не прынiжаючы сваёй чалавечай годнасці. Лічу, што паводле новага Крымінальнага кодэкса буду вольны... ...Аднак, відаць па ўсім, улады, каб не выпускаць мяне, перанясуць яшчэ на паўгода ўвод у дзеянне новага Крымінальнага кодэкса. Гэта робіцца не таму, што суддзі не могуць зразумець сэнс змененых дзесяцi артыкулаў, а толькі з адной мэтай. Каб правесці выбары і пагандлявацца з Захадам па легітымнасці як выбараў, так і самой улады...

...Я асабіста згодны быць у ізаляцыі яшчэ год, каб толькі ні ў якім выпадку не ісці на ўступкі існуючаму рэжыму. Перажылі мангола-татарскае ярмо, дык і магілёўскія наступствы перажывем. Хай ідзе на выбары - вынік будзе не на яго карысць. Я ў гэтым упэўнены, бо нельга два разы наступаць на адныя і тыя ж граблі. Час ідзе і сёння мы тут думаем пра іх, а заўтра яны ўжо будуць думаць пра нас...

...У жыцці любога грамадства эканоміка з'яўляецца першаснай, а палітыка - другаснай, і таму эканамічныя праблемы абавязкова народзяць палітычныя незадавальненні народа. З кожным днём становіцца ўсё меней людзей, згодных працаваць за грошы, на якія нават сябе пракарміць немажліва, не кажучы ўжо пра сям'ю. Дабрабыту без рэформаў не будзе, а ўлады на рэформы не пойдуць, бо тады яны страцяць сваю ўладу. Сёння перад Лукашэнкам стаіць выбар: альбо зыходзіць, альбо яшчэ на пэўны час працягнуць свой рэжым. Калі зыходзіць, дык будзе абавязковая здача Беларусі Расеі, што сёння і робіцца з ягонага боку. З Крамлём гандлююцца цэлай краінай, цэлай нацыяй. Гэта, безумоўна, неабходна спыніць...

...Што датычыцца якога-небудзь памілавання, пра гэта не можа быць і гаворкі. Бо я ніколі не пайду на тое, каб зганьбіць сваіх дзяцей. І калі ў мяне будзе выбар толькі паміж ганьбай і смерцю, я без роздуму выбіраю апошняе. Я вельмі люблю сваіх дзяцей і лічу іх жыццё працягам свайго, таму, тыя выпрабаванні, якія леглі сёння на іх бацькоў, у будучыні пойдуць ім толькі на карысць. Мне асабіста не будзе сорамна перад сваімі ўнукамі за пражытыя гады...»

**Падрыхтаваў Іван Паўлёнак**



**На здымку: Уладзімір Кудзінаў са сваёй сям'ёй. 1988 год. Фота з сямейнага архіву.**

# Да Снежнай каралевы ў госці

**У нядзелю, 9 красавіка, у Гарадзенскім абласным тэатры лялек адбудзецца прэм'ера спектакля «Снежная каралева».**

Гарадзенскія артысты даўно марылі пра сцэнічнае ўвасабленне адной з самых папулярных казак Г.Х.Андэрсена. І вось нарэшце рэжысёр Мікалай Андрэеў здзейсніў даўнюю задумку. А дапамагла яму ў гэтым дыпломніца Беларускай акадэміі мастацтваў Вольга Разумава. Дарэчы, Вольга ўдала дэбютавала ў 1998 годзе на гарадзенскай сцэне як мастак-пастаноўшчык спектакля «Казка пра Ямелю». Сёлета да спектакля «Снежная каралева» яна стварыла надзвычай прыгожыя лялькі-марыянеткі і арыгінальную сцэнаграфію. Варта адзначыць і працу майстроў-выканаўцаў, якія «ўдыхнулі» ў лялькі жыццё.

У ролі Снежнай каралевы выступіць вядомая актрыса Галіна Закрэўская. Разам з ёй у спектаклі граюць Юрый Мянько, Аляксандр Енджэеўскі і Вольга Калеснікава.

Пасля прэм'еры гарадзенскія лялечнікі адпраўляюцца на гастролі ў Менск, дзе прапануюць сталічнаму гледачу сваіх знакамітых «Тутэйшых», а таксама спектаклі «Казка пра Ямелю», «Неверагодны ілюзіён» і «Казкі Пушкіна». З 14 па 23 красавіка на сцэнічнай пляцоўцы гарадзенцаў будуць выступаць іхнія калегі з менскага Дзяржаўнага тэатра лялек.

**Ігар Гандлеўскі**

# 21-я кніга Івана Лепешава

**Іван Лепешаў, доктар філалагічных навук, прафесар Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта, аўтар кнігі «Дазнанні», адрасуе яе выкладчыкам, студэнтам і ўсім, «хто цікавіцца пытаннямі літаратуры, мовы, гісторыі». Выступае ён не ў звыклым для сябе жанры - эсэістыцы і літаратурнай крытыцы.**

У прадмове пісьменнік Ігар Жук сведчыць, што глыбока беларускае слова «дазнанне» нічога супольнага не мае з юрыдычным тэрмінам - расследаванне. Гэта найперш - «пераканание досведам». Тут Івану Якаўлевічу Лепешаву і карты ў рукі. Прадметам гаворкі ён валодае, як кажуць, на ўсе сто!..

Некалькі нататкаў прысвечаны «ранняму» Янку Купалу, побыту Фелікса Дзяржынскага ў Гродне, Васілю Быкаву і яго цяжкаму ўздыму да сусветнай вядомасці. У асобным блоку разглядаюцца праблемы беларускай мовы: «Пра наш правапіс», «Пра гвалт над мовай», «Сучасны гвалт над мовай», «Сем разоў адмерай».

Аднак, без сумневу, найбольшую цікавасць выклікаюць артыкулы, аб'яднаныя агульнай назвай «Пушкініяна». Чатыры розныя допісы - «Паспешлівая выснова», «А Пушкін быў і такім», «Руку правую потешить...», «Прадаўшыся цару за шчодрыя дары...» - выкладаюць нетрадыцыйныя думкі пра Аляксандра Пушкіна.

Выяўляецца, ён быў вялікім прыхільнікам русіфікацыі некарэнных народаў Расеі, шчыра радаваўся разгрому нацыянальна-вызваленчага паўстання 1930-1831 гадоў у Польшчы, нават сам хацеў ехаць «біцца з палякамі». І гэта нягледзячы на тое, што Аляксандр Сяргеевіч высока цаніў талент свайго знаёмага Адама Міцкевіча. Незадоўга да смерці, Пушкін цалкам перайшоў на службу цару Мікалаю І, пішa «верноподданические» вершы...

Урэшце, гэтую кнігу (каштуе 200 рублёў) трэба чытаць. Хто зацікавіцца, можа напісаць аўтару на адрас: 230009, г.Гродна, БЛК, 30/3. І.Я.Лепешаву; альбо патэлефанаваць на нумар 33-49-46.

**Антон Лабовіч**

# Пра тое, за што канфіскавалі аўтамабіль і аштрафавалі на сто мільёнаў

**Калі Ігар Мікалаевіч Х. зразумеў, што мытнікі збіраюцца канфіскаваць ягоны грузавы фургон «Мэрседэс-100», ён ледзь не заплакаў і пачаў нешта выкрыкваць на адрас усіх тых, хто давёў яго да стану скрайняга хвалявання, афекту, калі казаць па навуцы. Ен прасіў абароны ў вышэйшых за зямныя сілаў, бо зразумеў поўную бездапаможнасць чалавечага розуму, які раптам страціў сваю моц у дадзеным месцы і ў дадзены час. Справа адбывалася на беларуска-літоўскай мяжы ў Прывалках 31 жніўня мінулага года.**

Ігар Х. да гэтага ўжо больш за чатыры месяцы ездзіў на аўтамабілі, які быў зарэгістраваны на цешчу, што жыве ў літоўскім горадзе Паланга. Кожны раз, калі ўязджаў у Беларусь, афармляў машыну на часовы ўвоз. За месяц знаходжання ў Беларусі літоўскай машыны чатыры разы плаціў па 27 даляраў. Апошні раз ён уехаў 29 ліпеня, а мусіў выехаць 29 жніўня. Так бы і было, але зламалася каробка перадачаў, канец тэрміну прыпаў на выхадныя, і Ігар Х. патрапіў на КПП Прывалкі 31 жніўня. За гэта ў яго пастанавілі суда канфіскавалі аўтамабіль і аштрафавалі на 100 мільёнаў.

Спярша Ігар не мог паверыць ў тое, што гэта можа быць на самой справе. Хадзіў, як самнамбула, не мог адрозніць сну ад рэальнасці. Нарэшце звярнуўся па юрыдычную дапамогу, абскардзіў пастанову ў судах вышэйшых інстанцыяў. Аднак атрымаў адказ у тым сэнсе, што парушэнне мела месца і пакаранне прадугледжанае адміністратыўным кодэксам.

Ігар Х. не можа зразумець суровасць пакарання: нічога не скраў, нікога не збіў і не пакрыўдзіў, ніхто з-за ягоных дзеянняў не мог пацярпець і ў будучым. Калі парушыў фармальны закон - заслугоўвае спагнання, ён гэтага не адмаўляе. Але за два дні знаходжання літоўскай машыны ў нашай краіне - ды такое пакаранне... Відавочна, што карныя меры не адпавядаюць небяспецы ўчынку і не ўлічваюць абставіны справы. Да таго ж, ён меў права ўвезці аўтамабіль на тры месяцы, ў горшым выпадку даплаціў бы разам са штрафам тыя ж 27 даляраў.

Цяпер Ігар Х. нават не ведае, што рабіць далей. На справядлівасць праваахоўных органаў спадзявацца не выпадае. Аўтамабіль ужо ў санаторыі «Сосны». Усе, з кім ён размаўляў на гэты конт, раяць не звязвацца: маўляў, гарадзенская мытня нават мацнейшая за прэзідэнта.

Цяпер стала модным казаць пра сталінскія рэпрэсіі так: ну чаго корпацца, час тады быў такі. Выяўляецца, час заўжды такі. А вось людзі розныя. Хтосьці можа сказаць: вось хітрун, хай падзякуе, што не пасадзілі, альбо не расстралялі. Адно турбуе - каму сказаць дзякуй?

**Сяргей Самасей**

# Добраахвотна-прымусовыя ахвяраванні




Вось такі білецік выдаюць у касах ашчаднага банка настаўнікам гарадзенскіх школаў замест часткі зарплаты. Адмаўляцца бессэнсоўна. Касіры на патрабаванне грошай адмоўна круцяць галовамі і гавораць, што білецік можна не браць, але і грошай не гэтую суму ўжо няма. А дзе ж тыя грошы? Яны ў святароў праваслаўнай царквы. Пра гэта сведчыць асабісты подпіс мітрапаліта Філарэта, да якога ў мяне ёсць пытанне-прапанова: «Товарищ начальник белорусского отделения московской церкви, не кажется ли Вам, что Господу угодней, если бы деньги эти Вы собирали там, где верующему человеку и пристало - на паперти».

**Алесь Каляда**

# Курсы валют

На 5 красавіка Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы замежных валют: даляр ЗША — 440 беларускіх рублёў; еўра — 420,97; нямецкая марка — 215,24; расійскі рубель — 15,30. У параўнанні з папярэднім днём афіцыйны курс долара ўзрос на 2 рублі. На «чорным» рынку наяўнай валюты ў Менску раніцай 5 красавіка даляр куплялі па 925—930 і прадавалі па 940 рублёў. У параўнанні з папярэднім днём курс знізіўся ў сярэднім на 5 рублёў. У абменных пунктах камерцыйных банкаў даляр куплялі па 905—910 і прадавалі па 915—920 рублёў.

**Дзмітрый Уласаў**

# «Эй, там, наверху! От вас опять спасенья нет!»

**Устаноўчы з'езд рэспубліканскага прафсаюза прадпрымальнікаў і асоб, якія працуюць па найму, перанесены на больш позні тэрмін. Такое рашэнне прыняў аргкамітэт па стварэнні прафсаюза, пасля таго як на мітынг прадпрымальнікаў у менскім парку Дружбы народаў увечары 3 красавіка прыйшлі крыху больш за 40 чалавек.**

Як заявіў старшыня аргкамітэта па стварэнні прафсаюза Валерый Леванеўскі, устаноўчы з'езд павінен быў прайсці на мітынгу ў сувязі з тым, што прадпрымальнікам, нягледзячы на ўсе намаганні, не ўдалося арэндаваць памяшканне. Малую колькасць удзельнікаў акцыі ён растлумачыў яе слабай рэкламай, недастатковай арганізаванасцю прадпрымальнікаў і боязню людзей пасля масавых арыштаў 25 сакавіка. Паводле слоў В.Леванеўскага, устаноўчы з'езд рэспубліканскага прафсаюза прадпрымальнікаў будзе праведзены напрыканцы красавіка.

Прысутныя ў парку актывісты прафсаюзнага руху прадпрымальнікаў з многіх рэгіёнаў краіны правялі кароткі мітынг пад лозунгамі «Частная собственность неприкосновенна», «Предприниматели — за демократию и экономическую свободу», «Эй, там, наверху! От вас опять спасенья нет!». Яны заклікалі адзін аднаго прыкласці ўсе намаганні па аб'яднанню прадпрымальнікаў і супрацьўленню спробам улад «расцягнуць» іх па міні-рынках і «душыць па аднаму». У якасці прыкладаў былі прыведзены магілёўскі стадыён «Спартак» і менскі «Камароўскі рынак».

Удзельнікі акцыі прынялі рэзалюцыю, у якой запатрабавалі ад улад «спыніць карна-канфіскацыйныя захады ў дачыненні да прадпрымальнікаў», упарадкаваць заканадаўства ў галіне сертыфікацыі і гігіенічнай рэгістрацыі тавару, спыніць крымінальныя справы, распачатыя па фармальных і надуманых прычынах, узмацніць кантроль за рэалізацыяй і якасцю тавараў, якія рэалізуюцца замежнымі грамадзянамі, і г.д. Акрамя таго, прысутныя асудзілі збіццё міліцыяй журналістаў у Менску 25 сакавіка і падтрымалі ініцыятыву па скліканні ў 2000 годзе Усебеларускага з'езда.

**Дзмітрый Уласаў**

# Навошта Польшчы ўступаць у склад ЕС?

**Для Беларусі ўсе пытанні, звязаныя з уваходам Польшчы ў Еўрапейскі саюз (ЕС), уяўляюць надзвычайную цікавасць. Гэта лёгка зразумець: калі прыклад паўднёвай суседкі Украіны часта служыць суцяшэннем, што ў нас не ўсё так кепска, то прыклад бліжэйшай да нас заходняй дзяржавы патрэбны для іншага: каб уяўляць, якім бы чынам мы жылі, калі б мелі іншую палітыка-эканамічную арыентацыю.**

Перадгісторыю руху Польшчы да ЕС можна адлічваць з часу аднаўлення суверэнітэту, гэта значыць з 1989 года. Ужо тады ідэя членства ў «аб'яднанай Еўропе» пачала прэтэндаваць на статус адной з агульнанацыянальных.

У снежні 1991 года паміж Польшчай і ЕС заключаецца Еўрапейская дамова, якой прадугледжваецца стварэнне на працягу 10 гадоў зоны свабоднага гандлю і прывядзенне нацыянальнага заканадаўства ў адпаведнасць з дзеючым у заходнееўрапейскіх краінах. У красавіку 1994 года Польшча падае заяву аб уступленні ў Еўрасаюз, і ўжо ў 1996 годзе доля ЕС у яе тавараабарачэнні складае 66,3 працэнта па экспарту і 66,9 працэнта па імпарту. У студзені 1997 года польскі ўрад прымае Нацыянальную стратэгію інтэграцыі. У снежні таго ж года на пасяджэнні Еўрапейскага савета канчаткова акрэсліваюцца шэсць кандыдатаў на ўваход у склад Еўрапейскага саюза, прапанаваных Еўрапейскай камісіяй, - Венгрыя, Кіпр, Славенія, Чэхія, Эстонія і Польшча. Для Польшчы перамовы пачаліся 31 сакавіка 1998 года. Запланаваная дата гатоўнасці ўступлення гэтай краіны ў ЕС - пачатак 2003 года.

У Польшчы лічаць, што ўваход у склад ЕС падвысіць узровень нацыянальнай бяспекі; будзе садзейнічаць эканамічнаму развіццю і мадэрнізацыі, ліквідацыі цывілізацыйнага адставання ад Заходняй Еўропы; забяспечыць незваротнасць дэмакратычных пераўтварэнняў у краіне; стварыць новы імідж дзяржавы - удзельніцы вялікага эканамічнага і палітычнага альянсу. Для палякаў, якія будуць жыць у «аб'яднай Еўропе», маюць значэнне і свабодныя, бязвізавыя паездкі па ўсіх краінах Еўрасаюза, магчымасць жыць і працаваць на ўсёй яго тэрыторыі. Не дзіўна, што ідэю членства Польшчы ў ЕС, адпаведна дадзеным сацыяльнага апытання, праведзенага ў траўні 1998 года газетай «Rzeczpospolita», падтрымалі 68 працэнтаў палякаў.

Варта заўважыць, што патрабаванні да краінаў, якія ўступаюць у склад ЕС, вельмі жорсткія:

- стабільнасць інстытутаў дзяржавы, якія гарантуюць захаванне прынцыпаў дэмакратыі і законнасці, выкананне правоў чалавека і павагу да правоў нацыянальных меншасцяў;
- функцыянаванне рынкавай эканомікі;
- яе канкурэнтаздольнасць на рынках ЕС;
- прызнанне заканадаўчага набытку ЕС, а таксама патрабаванняў палітычнага, эканамічнага і валютнага саюза;
- уваход у склад ЕС новай дзяржавы не павінен пагражаць саюзу стратай дасягнутага ўзроўня інтэграцыі.

Паводле меркаванняў экспертаў Еўрапейскай камісіі (ЕК), першаму патрабаванню Польшча адпавядае ўжо зараз. Што ж да другога і трэцяга крытэрыяў, то, адпаведна ацэнкам ЕК, Польшча набліжаецца да іх выканання. Яна прызнана краінай, дзе функцыянуе канкурэнтаздольная ў сярэднетэрміновым маштабе рынкавая эканоміка. Выканаўчы орган ЕС задаволены і ступенню гатоўнасці Польшчы прыняць заканадаўчы набытак саюза.

Дагэтуль перамовы вяліся па 23 накірунках, у ліку якіх навука і даследаванні, сувязь ды інфармацыйныя тэхналогіі, індустрыйная палітыка, эканамічны і валютны саюз, палітыка канкурэнцыі, мытны саюз, свабоднае абарачэнне тавараў, энергія, сацыяльная палітыка і занятасць, падаткаабкладанне, свабода прадастаўлення паслуг. Не пачатыя перамовы яшчэ па шасці накірунках: свабоднае перамяшчэнне грамадзянаў, фінансавы кантроль, сістэма юстыцыі, унутраныя справы, рэгіянальная палітыка, сельская гаспадарка, фінансы і бюджэт.

На думку польскіх удзельнікаў перамоваў, цяжэй за ўсё будзе прыняць узгодненае рашэнне па пытаннях свабоднага абарачэння капіталу; тут Польшча зацікаўлена ва ўсталяванні рэжыму пераходных перыядаў тэрмінам на 1,5 года і 5 гадоў, на працягу якіх будзе ажыццяўляцца набыццё іншаземцамі нерухомай маёмасці, у прыватнасці, для вырашэння інвестыцыйных праблемаў краіны.

Без сумневу, курс на ЕС, узяты Польшчай шэсць гадоў таму, адыграў немалую ролю ў яе эканамічных дасягненнях. Гэтую краіну, поруч з Венгрыяй, зараз усё называюць «лідарам эканамічнага росту» сярод краінаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Польшча з'яўляецца чацвёртым, пасля ЗША, Швейцарыі і Японіі, буйнейшым экспартным партнёрам Еўрасаюза.

Параўнаем некалькі эканамічных паказчыкаў Польшчы і Беларусі, каб стала больш зразумела, наколькі далёка адышла ад нас заходняя суседка.

Інфляцыя за 1999 год у Польшчы - 10,1 працэнта, у Беларусі - 351,2 працэнта, што адпавядае 11-працэнтнай сярэднямесячнай інфляцыі. Гэта значыць, у іх грошы за год абясцэньваюцца такім жа чынам, як у нас за месяц. Сярэднямесячны заробак палякаў, якія працуюць у сектары прадпрыемстваў, склаў у 1999 годзе 1877,3 злотага, альбо 452 даляры ЗША. Гэта столькі ж ці нават крыху больш, чым беларускія бюджэтнікі, у пераліку на даляры, зарабілі за ўвесь год.

Заходняя Еўропа жадае, натуральна, мець сваім партнёрам дзяржаву, якая не стварае лішніх міждзяржаўных праблемаў накшталт міжнароднага фінансавага махлярства. І вось у сваім дакладзе камітэт Савета Еўропы па барацьбе з «брудными» грашыма выказвае ўраду Польшчы прэтэнзію, што яе сістэма барацьбы з адмываннем падобных грошай дзейнічае неэфектыўна. Прыклад: за пяць гадоў існавання прававой нормы, якая дапускае пакаранне за легалізацыю злачынных даходаў, не вынесена ніводнага абвінаваўчага выраку. І гэта пры тым, што Польшча мае рэпутацыю краіны, дзе міжнародныя злачынныя групы праяўляюць вялікую актыўнасць, дзе утварыўся транзітны калідор для кантрабанды наркотыкаў у Заходнюю Еўропу. Сярод крыніцаў злачыннага капіталу ў Польшчы эксперты Савета Еўропы называюць нелегальную вытворчасць наркотыкаў, крадзеж аўтамабіляў, кантрабанду алкаголю, тытунёвых вырабаў, рэкет і фальшываманецтва. Камітэт заклікае польскі ўрад ратыфікаваць канвенцыю Савета Еўропы аб даходах, атрымліваемых у выніку злачыннай дзейнасці, і ўнесці адпаведныя змены ў нацыянальнае заканадаўства.

Несумненна, што пад ўздзеяннем заканадаўчага набытку ЕС на нацыянальнае заканадаўства тлумачыцца і намер польскага ўрада распаўсюдзіць дзеянне агульнадаступнай сістэмы страхавання здароўя на замежных грамадзянаў, якія знаходзяцца ў Польшчы; адпаведныя змены ў артыкуле закона ўжо прынятыя ў першым чытанні.

Пададзеныя звесткі былі б няпоўныя без голасу апанентаў. А яны ёсць. Так, у сельскагаспадарчым прафсаюзе «Самаабарона» лічаць, што краіны ЕС трактуюць Польшчу не як партнёра, а як рынак збыту для сваіх прадуктаў, а «да нашай прадукцыі Бруселю справы няма». Меркаванне «такі саюз нам непатрэбны» аграрыі абяцаюць прытрымлівацца да тых часоў, пакуль не атрымаюць ад прэм'ера Ежы Бузека запэўненняў наконт паляпшэння сітуацыі ў сельскай гаспадарцы. У выпадку адсутнасці задавальняючых рашэнняў урада аграрыі не выключаюць магчымасці масавых пратэстаў, якія могуць прывесці да датэрміновых парламенцкіх выбараў.

Адпаведна звесткам, атрыманым ад дэпутата сейма Польшчы Габрыэля Яноўскага, там ёсць група парламентарыяў, якія не падзяляюць афіцыйнага курсу на інтэграцыю з Заходняй Еўропай. Еўрапейскі Дом, паводле словаў Г.Яноўскага, не будзе стабільным, калі такія краіны, як Украіна ці Беларусь, не здолеюць унесці ў яго свой канцэптуальны ўнёсак. А таму сённяшні Еўрапейскі Дом можа ажыццявіцца толькі пры ўмове выраўноўвання ўзроўняў эканамічнага развіцця ўсіх краінаў Еўропы, і ў гэтым працэсе належыць удзельнічаць не толькі Еўрапейскаму саюзу, але і ЗША.

**Уладзімір Трацякоў**

**Аўтар удзячны амбасадзе Рэспублікі Польшча за матэрыялы, выкарыстаныя пры падрыхтоўцы артыкула**

ПЯРЭСТЫ КУТ

# Ліда. Адзін маленькі горад супраць несправядлівасці

**Тое, што адсутнасць на Беларусі хаця б адной вышэйшай навучальнай установы, якая працавала б цалкам на беларускай мове, з'яўляецца абсурднай недарэчнасцю, пачынаюць разумець, здаецца, усе: ад усякай-усялякай апазіцыі да самых, да крайніх камуністаў.**

У горадзе Лідзе, напрыклад, вядзецца масавая акцыя збору подпісаў за стварэнне Беларускага нацыянальнага універсітэта. Усяго ў выніку Лідскай акцыі сабрана 4665 подпісаў. На руках у арганізатараў гэтай акцыі яшчэ каля васьмі соцень неапрацаваных подпісаў. Тут ёсць подпісы і з Маладэчна, і з Гародні, і з Глыбокага.

Днямі па Лідзе пойдуць апытальнікі з дыктафонамі, якія замест подпісаў будуць запісваць выказванні «за» ці «супраць» БНУ. Касеты будуць накіраваны нароўні з подпісамі ў сядзібу ТБМ.

**Станіслаў Суднік**

# Зброя мінулых стагоддзяў

**Пачынаючы з 23 сакавіка ў Гарадзенскім дзяржаўным гісторыка-археалагічным музеі пачала працаваць сталая выстава «Зброя мінулых стагоддзяў».**

У экспазіцыі прадстаўлены шырокі спектр вайсковага рыштунку, даспехаў, халоднай і агнепальнай зброі.

Экспанаты розных часоў і народаў з музейных фондаў размешчаныя ў трох залах.

З самага пачатку наведвальнік трапляе ў часы далёкага сярэднявечча. Мячы, дзіды, кальчугі, рыцарскія латы... Яны, як маўклівыя сведкі мінуўшчыны, становяцца праваднікамі ў бурлівую эпоху разнастайных падзеяў. Калі вельмі часта добры меч і гострая дзіда вызначалі месца пад сонцам.

Асобнае месца займае камплект узбраення гарадзенскага воіна XIII стагоддзя. Унікальны скарб знойдзены ўвесну 1988 года на левым беразе Нёмана.

Амуніцыя воіна XIII-XIV стагоддзяў Ордэна Святой Дзевы Марыі, званага крыжацкім, дазваляе ўявіць, што за «госці» наведваліся пад Гародню і з кім меў справу непераможны Давыд Гарадзенскі.

Турнірны даспех Фрыдрыха Пераможнага пфальцграфа Рэйнскага. Гэта рыцарскае ўзбраенне, якое ў XV стагоддзі дасягнула свайго найвышэйшага росквіту. Рыцар цалкам схаваны пад жалезам, уяўляў сабой воя, дасканала абароненага ад халоднай зброі.

Беларуская зброя і вайсковы ўбор спрадвеку адчувалі ўплывы як Усходу, так і Захаду. Гэта яскрава бачна ў цэнтральнай зале экспазіцыі, дзе сабраны матэрыял эпохі ВКЛ і Рэчы Паспалітай XVI-XVII стагоддзяў: рыштунак і зброя наймітаў, гусарскія шаломы і панцыры, мушкеты і шаблі, гарматы і парадная зброя.

Вельмі ўражвае кальчуга войска ВКЛ XVII стагоддзя. Як вядома, на яе выраб ішло да 600 метраў дроту, дыяметрам ад 0,8 да 2 міліметраў, з якога выраблялася прыкладна 20 000 кольцаў. Усё гэта заносіць нас у віхуру бурлівых падзеяў часоў Стэфана Баторыя і поўнага драматызму надзвычай крывавага XVII стагоддзя.

Багата прадстаўлена ўзбраенне XIX стагоддзя, пераважна з Расейскай імперыі.

Прадметы, якія ўтварылі экспазіцыю, пачалі збірацца з самага заснавання музея ў 1920 годзе. На сённяшні дзень калекцыя Гарадзенскага археалагічнага музея налічвае больш за 600 прадметаў, яна актыўна папаўняецца за кошт археалагічных раскопак, закупак і дарэнняў ад насельніцтва.

Магчымасць убачыць і нават дакрануцца да слаўнай гісторыі нашага народа гарадзенцы атрымалі, дзякуючы творчаму калектыву ў складзе Ю.Кітуркі (навуковая канцэпцыя) і Ч.Рой (мастацкае афармленне).

**Эдуард Дзьмухоўскі, Ксенія Бурдзюк**

# «Міс Гродна-2000» - хто яна?

**Ідучы па гораду, нельга не заўважыць улётак пад назвай «Міс Гродна-2000», якія запрашаюць на конкурс прыгажосці дзяўчатаў ва ўзросце 16-25 гадоў. Сам конкурс пройдзе 8 траўня, а 10 сакавіка адбыўся кастынг сярод прэтэндэнтак на тытул «Міс Гродна-2000».**



Гарадзенскія прыгажуні

Кастынг праходзіў у памяшканні Гарадзенскага драмтэатра і складаўся з трох тураў. У першым туры дзяўчаты павінны былі прайсціся па подыуму ў вячэрніх суkенках. У другім - у купальніках. У трэцім туры прэтэндэнткі прадстаўляліся. Адбор дзяўчатаў праводзіла журы, у склад якога ўваходзілі ўжо знаёмыя нам «майстры дзявочай прыгажосці» - І.Ляговіч (дырэктар фірмы «Младзі»), В.Шапавалава (менавіта спадарыня Шапавалава будзе рыхтаваць дзяўчатаў да фінальнага конкурсу) ды іншыя. У гэты дзень журы давялося добра-такі папрацаваць: выбраць з 200 прыгажуняў толькі 16. Пагадзіцеся: справа нялёгкая. Але ўжо пасля трох тураў сталі вядомыя імёны пераможцаў паўфінала. З адной з іх (і на мой погляд самай прыгожай) мне ўдалося паразмаўляць. Знаёмцеся! Кулеш Юлія, вучаніца сярэдняй школы нумар 25, адна з 16-ці прэтэндэнтак на тытул «Міс Гродна-2000».

- Я нават і не спадзявалася, што патраплю ў фінал. Тут столькі многа прыгожых дзяўчатаў... Мне проста вельмі пашанцавала сёння. Буду спадзявацца, што мяне напаткае поспех і ў фінале.

**Надзея Салыга**





**Па гарызанталі:** 7.Браніраваная машына з кулямётам. 8.Камедыя М.Матукоўскага. 10.Салодкі прадукт, шкодны для зубоў. 11.Рэшткі сена пасля стагавання. 12.Повад аброці, на якім водзяць верхавога каня. 14.Зубаты кіт. 16.Нос, якім можна ваду чэрпаць. 17.Блюмінг па сутнасці. 19.Ад экрана яго не адарваць. 20.Прытулак у ценю Бога. 24.Каша з мясам паўсходняму. 25.Млынавы камень. 26.Выязны лакей часоў прыгоннага права. 30.Хто не дае карасю ў рацэ драмаць? 31.Выступ на краі кола. 32.»...неўміручасці» (п'еса К.Крапівы). 33.Раённы цэнтр у Гомельскай вобласці. 34.Што паказвае дзяўчына, калі не хоча выдаць сваіх пачуццяў?

**Па вертыкалі:** 1.Зборнік вершаў Ул.Паўлава. 2.Нямецкі філосаф XIX стагоддзя. 3.Рэспубліка ў Расеі. 4.Тытул правіцеля Бухары. 5.Прастольнае свята пры царкве, манастыры. 6.Набор прыстасаванняў для пэўнай работы. 9.Беларускі пісьменнік. 13.Кіргізскі эпас. 15.Аўтарытэт, улада. 17.Цэлы кусок палатна, скручаны ў трубку. 18.Што такое атака? 21.Ён «адпачывае» за кратамі. 22.Зборнік вершаў Ул.Ляпёшкіна. 23.Той, хто засноўвае штонебудзь. 27.Адлюстраванне. 28.Драбяза. 29.Паўднёвае пладовае дрэва. 32.Абутак футбаліста.

## Адказы на крыжаванку, змешчаную ў N10:

**Па гарызанталі:** 7.Сповedзь. 8.Каністра. 10.Лямец. 11.Купалле. 12.Ніямей. 14.Скурко. 16.Пысін. 17.Факт. 19.Управа. 20.Фібула. 24.Луцк. 25.Злоты. 26.Дурбан. 30.Халера. 31.Квадрат. 32.Дакор. 33.Міцкевіч. 34.Велічыня.

**Па вертыкалі:** 1.Апалушкі. 2.Пералік. 3.Азалея. 4.Заяц. 5.Лічнік. 6.Пралеска. 9.Юмбрык. 13.Сібір. 15.Рэпік. 17.Футляр. 18.Гвалт. 21.Будаўнік. 22.Птушка. 23.Гарачыня. 27.Ураднік. 28.Трахея. 29.Акраец. 32.Дзік.

# Вы здольныя ўплываць на людзей?

**Адным лёгка выклікаць сімпатыю ды прыхільнасць да сябе і прымусіць тых, хто побач, дзейнічаць адпаведна пэўнаму сцэнару. Іншым гэта не ўдаецца. А Вам пад сілу ўплываць на людзей? Паспрабуйце выбраць сярод прапанаваных адказаў на пытанні тыя, што Вам больш даспадобы.**

**1. Калі пачатак канцэрта ў 20.00. У колькі прыйдзеце Вы?**

а) за гадзіну да пачатку канцэрта, каб заняць лепшае месца - 3 балы;

б) папрашу сяброў заняць мне месца і прыйду за паўгадзіны - 2;

в) у апошні момант - 1.

**2. Тыдзень таму Вас пакрыўдзілі. І вось гэты чалавек просіць у Вас прабачэння. Вы яму даруеце?**

а) канешне, усё ўжо ў мінулым - 2 балы;

б) так, але ў далейшым буду яго пазбягаць - 3;

в) не, я дужа пакрыўджаны (-ая) - 1.

**3. Вам пашанцавала выйграць у латарэю. Вы выбіраеце прыз і адважваецеся на...**

а) вялікае падарожжа ў Аўстралію - 2 балы;

б) аўтамабіль-маламітражку - 3;

в) пяць тысяч даляраў наяўнымі - 1.

**4. Вам прапануюць сыграць у класічнай тэатральнай п'есе. Якую ролю Вы выберыце?**

а) галоўную - у п'есе А.Макаёнка - 2 балы;

б) любую - у п'есе Астроўскага - 3;

в) галоўную - у п'есе Шэкспіра - 1.

**5. Вам трэба ў нечым запэўніць свайго начальніка. Як Вы будзеце дзейнічаць?**



а) прапаную пагутарыць за кубачкам кавы ці нечага іншага - 1 бал;

б) прывяду важкія аргументы - 3;

в) падрыхтую дакладную справаздачу - 2.

**6. З кім з членаў сям'і ў Вас былі найбольш блізкія адносіны?**

а) з матуляй - 3 балы;

б) з бацькам - 1;

в) з сястрой (ці братам) - 2.

**7. Вы спрабавалі калі-небудзь узрушыць сваю каханую (свайго каханага) сексуальнай спадняй бялізнай?**

а) так, для мяне гэта сапраўднае задавальненне - 1 бал;

б) мне б хацелася паспрабаваць - 3;

в) не - 2.

**Падвядзем вынікі**

**Падсумуйце атрыманыя Вамі балы.**

**Ад 7 да 11 балаў.** Шмат чаго Вы можаце дасягнуць дзякуючы сваёй абаяльнасці, што Вам, відаць, добра вядома. Але глядзіце, каб не займець «славу» эгаіста(-кі). Будзьце гатовы аказаць паслугу і некаму іншаму, калі ў яго з'явіцца ў гэтым патрэба.

**Ад 12 да 16 балаў.** Калі гаворка датычыць чагосьці важнага, дык Вы з усёй адказнасцю спрабуеце запэўніць у гэтым усіх, хто вакол Вас. Прычым не маеце памкненняў некага зачараваць, не разводзіце дэмагогію. Добра і тое, што ў несур'ёзных абставінах Вам няцяжка заваяваць сімпатыю і дамагчыся пажаданай мэты.

**Ад 17 да 21 бала.** У некаторых людзей ствараецца ўражанне пра Вас як надзьмутага чалавека. Але калегі па працы ды і сябры цэняць Вашу стрыманую манеру паводзінаў і аб'ектыўныя парады.

# Гараскоп

♈ **Баран (21.03-20.04).** Ваша падарожжа абяцае быць прыемным. Поспех у справах забяспечаны.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Звярніце ўвагу на свае сны ў аўторак і пятніцу. Мажліва, атрымаеце падказку вырашэння хвалюючага пытання.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Не дазваляйце ўцягнуць сябе ў авантуру з маёмасцю. Паспрабуйце пазбегнуць канфліктнай сітуацыі ў суботу.

♋ **Рак (22.06-22.07).** Найбольш удалы дзень - пятніца. Можаце прадпрымаць рашучыя, нават аўтарытарныя дзеянні.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Вы на парозе новай закаханасці. Удалы перыяд для заняткаў мастацтвам.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Дакладна сплануйце свой вольны час - зарэкамендуеце сябе з добрага боку. Слова - не верабей, таму сачыце за сваім маўленнем.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** З законам на гэтым тыдні лепей не канфліктаваць. Прынамсі, не забывайцеся аплочваць праезд у транспарце.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** У справах разлічвайце на дапамогу Вадалея і Стральца. Захоўвайце вытрымку - і Вам пашанцуе.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Не варта дапусціць канфліктных сітуацыяў з дзелавымі партнёрамі і высвятлення адносінаў у сям'і.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Нарэшце Вашыя мары спраўдзяцца - пазнаёміцеся з чароўнай асобай з-пад Вашага знаку. Зоркі раяць Вам грашовыя паступленні.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Надышоў час выявіць свае творчыя здольнасці. Разлічвайце на разуменне і дапамогу Панны.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Засцерагайцеся фінансавых стратаў. Варта запасціся цярпеннем - хутка справы пойдуць на лад.

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

**Адрас рэдакцыі:**
230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11.
Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96.
E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: **63124.**

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскай абласной узбуйненай друкарні.
Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4.
Замова 1 226 Наклад 8 100
Нумар падпісаны да друку ў 16.00 5.04.2000 г.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае прадастаўленым рэдакцыяй дыяпазітывам.

Галоўны рэдактар **Мікола Маркевіч**

Камп'ютарны набор: **Аксана Бурдзюк,**
камп'ютарная вёрстка: **Аляксей Салей**